


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 лістапада 2001 года

№ 44 (341)
Выходзіць па пятніцах

ТУ ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Амерыканцы ў музычнай школе

**МАЛАДЗЕЧНА.** На мінулым тыдні дзіцячую музычную школу наведалі 9 амерыканскіх турыстаў.

У горад яны прыехалі па прыватным запрашэнні. У музычнай школе гасцям арганізавалі экскурсію па класах, а потым невялічкі канцэрт.

Кіраўнік амерыканскай групы **Рубі Эрыксан** на развітанне сказала, што наступным летам прывязе сюды больш турыстаў з Амерыкі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Адчыняюцца «Дзверы»

**ВІЛЕЙКА.** 31-га кастрычніка ў Вілейцы адбудзецца чарговы сход клуба школьнікаў па інтарэсах "Дзверы".

У мінулы раз гэта быў злёт паэтаў, цяпер у зале Цэнтра эстэтычнага выхавання сабраліся аматары жывапіснага мастацтва. Школьнікі сустрэліся з мясцовымі мастакамі **Міхаілам Уліцкім** і **Эдуардам Мацюшонкам**. Мастакі расказалі пра сваё жыццё, творчасць, пракаментавалі карціны, якія выставілі ў зале. Таленавітыя землякі далі невялікі ўрок мастацкай культуры школьнікам і падарылі вялікае задавальненне.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

### Восем кіламетраў трубаправода

**МАЛАДЗЕЧНА.** Гарвыканкам у аўторак на сваім пасяджэнні прыняў праграму развіцця водазабеспячэння жылога сектара горада на 2002–2005 гады.

За гэты тэрмін плануецца правесці каля 8 кіламетраў водаправода. У рашэнні выканкома зазначана, што не менш за 20% ад кошту будаўнічых работ ляжа на "Маладзечнаводаканал" і да 50% – на гарадскі бюджэт. Астатняе – за кошт жыхароў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### ФК «Смаргонь» у першай лізе

**СМАРГОНЬ.** Мясцовы ФК "Смаргонь" датэрмінова выйшаў у першую лігу чэмпіянату Беларусі.

Да фінішу чэмпіянату засталося 2 туры. Разрыў паміж смаргонскім клубам і "Вертыкаллю", якая ідзе на трэцім месцы, складае 7 ачкоў. Каб афарміць датэрміновае павышэнне ў ранзе, смаргонцам не патрэбна было перамагаць. Дапамагло паражэнне асноўнага канкурэнта – "Вертыкалі".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### За цыбулю – прэміі

**МЯДЗЕЛ.** На мільён рублёў прадала цыбулі са свайго ўчастка школа вёскі Нарач. Пакупнікі – мясцовыя здраўніцы. Цалкам забяспечылі сябе і іншай агароднінай. А грошы пойдуць на патрэбы школы і на прэміі вучням-выдатнікам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Людзі лезуць у пятлю

**СМАРГОНЬ.** За мінулы тыдзень у Смаргонскім раёне павесіліся 4 чалавекі. 29 кастрычніка ў вёсцы Кеўлы скончылі жыццё самагубствам двое мужчын. Абодвум не было і пяцідзесяці год. Раней яны былі неабыякавыя да "зялёнага змея".

На мінулым тыдні ўлез у пятлю 32-гадовы смаргонец, які працаваў вадзіцелем у ЖКГ.

Трагічны выпадак адбыўся ў вёсцы Стрыпуны. Паштальёнка пакінула запіску, у якой прасіла пахаваць побач сябе і мужа. Ён спаў п'яным сном у хаце. Жанчына падпаліла хату і потым павесілася. Аднавяскоўцы хату патушылі і выратавалі мужчыну. Ягоную жонку пахавалі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 3 лістапада**

**Мінск**
3 – 4°С (уначы)
7 – 8°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
9°С (удзень)



**Нядзеля, 4 лістапада**

**Мінск**
2 – 3°С (уначы)
7 – 8°С (удзень)



**Вільня**
4°С (уначы)
9°С (удзень)



# Ніл Гілевіч у Маладзечне



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Ніл Гілевіч падчас вечарыны ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы.

**МАЛАДЗЕЧНА. Сюды прыехаў Ніл Гілевіч. У цэнтральнай гарадской бібліятэцы прайшла вечарына, прысвечаная 70-годдзю паэта.**

А перад пачаткам яеНіл Гілевіч пакланіўся помніку Агінскага, наведаў музвучылішча імя славутага кампазітара.

Жадаючых прысутнічаць на вечарыне было столькі, што арганізатары перанеслі яе з залы пасяджэнняў у вялікую чытальную залу. Туды паставілі ўсе крэслы, якія ёсць у бібліятэцы – 300 штук. Некаторым давялося слухаць паэта стоячы.

Ніл Гілевіч чытаў вершы – свае ўласныя і пераклады з іншых славянскіх моваў. Потым былі падарункі. Загадчык аддзела культуры гарвыканкома **Надзея Сідарэнка** падарыла паэту электрачайнік, а дырэктар музвучылішча **Рыгор Сарока** – выцінанку з выявай храма. Не абышлося без кветак.

Напрыканцы Ніл Гілевіч ставіў аўтографы на сваіх кніжках. Жадаючых была цэлая чарга. Паэт паабяцаў прыехаць зноў у хуткім часе і правесці вечарыну ў канцэртнай зале музвучылішча – надта яму там спадабалася.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Экспрэс-апытанне

### Колькі вам не шкада заплаціць за праезд у гарадскім аўтобусе?

**Матэрыял «Чарговыя адмены аўтобусных маршрутаў» чытайце на 3-й старонцы.**



**Станіслаў Самко, навучэнец гандлёва-эканамічнага каледжа, Маладзечна:**

– Мне, як навучэнцу, належыць ільготны білет. Я гатовы плаціць за праезд 50 рублёў замест цяперашніх 30.



**Ніна Чарнецкая, будаўнік, Маладзечна:**

– Няхай білеты будуць даражэйшыя, але гэта лепш, чым стаяць 2 гадзіны на прыпынку. У Расіі ёсць альтэрнатыва – маршрутнае таксі. І праезд там каштуе столькі, колькі ў гарадскім аўтобусе.



**Сяргей Шапель, слесар, Маладзечна:**

– Няхай павышаюць кошт білета хоць у 5 разоў. Але каб аўтобусы своечасова хадзілі.



**Наталля Соніч, будаўнік, Маладзечна:**

– Кошт білета ў 120 рублёў мяне задавальняе. Я хоць буду ведаць, што своечасова даеду дадому. А то ўчора ў аўтобусе ледзь нагу не адціснулі.



**Віталь Нахай, аператар, Валожын:**

– Я гарадскім транспартам карыстаюся рэдка. Але калі чалавеку трэба тэрмінова з'ездзіць з аднаго канца горада ў другі і калі аўтобуса няма, то ён гатовы заплаціць любыя грошы. Я – за павышэнне цэнаў, але ў разумных межах.



**Аляксей Мацюлька, слесар, Маладзечна:**

– Па выхадных кошт праезду ў гарадскіх аўтобусах – 120 рублёў. Я згодны, каб такая аплата была кожны дзень. Галоўнае, каб хадзілі своечасова. А то стаяў аднойчы на прыпынку гадзіны тры, чакаў "сямёрку". На "Лясныя" так і не даехаў.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

# Прэзідэнт, які родам з Астраўца

**АСТРАВЕЦ. На мінулым тыдні прайшла інаўгурацыя першага прэзідэнта Астравецкай СШ №2. Ім стаў адзінаццацікласнік Уладзімір Кутко. Пра свае прэзідэнцкія будні ён расказвае ў эксклюзіўным інтэрв'ю чытачам "РГ".**

Спачатку кароткі ўступ. Упершыню аб выбарах прэзідэнта ў гэтай школе задумваліся ў мінулым навучальным годзе. Але не атрымалася. Адна з прычын – змяніўся завуч школы. Новы намеснік дырэктара школы па вучэбнай частцы **Вольга Лябецкая** вырашыла працягнуць справу. Яна лічыць, што для вучняў будзе карысна паўдзельнічаць у кіраванні школай.

Перадвыбарчую кампанію ў школе пачалі напрыканцы верасня. Вучням прапанавалі напісаць праграму развіцця школы. Арганізаваліся сустрэчы з "выбаршчыкамі". Правам галасаваць валодалі вучні 8-11 класаў.

– Прэзідэнт у школе – гэта прамежкавае звяно паміж вучнямі і настаўнікамі. – гаворыць Ул. Кутко. Будзем разам вырашаць агульныя праблемы – павялічваць паспяховасць, напрыклад.

**– Сам як вучышся?**

– Нармальна. Па новай сістэме, у асноўным, атрымліваю адзнакі ад "сямёркі" да "дзявяткі". Хаця лепш падабаецца пацібальная сістэма, бо да яе ўсе прывыклі. Паміж імі ёсць розніца. Параўнайце – калі ты ведаеш прадмет на слабую чацвёрку, табе ставяць "4 з мінусам". Але гэта ж усё роўна "чацвёрка". А па новай сістэме такія веды ацэньваюцца толькі у 5 балаў.

**– Калі стаў прэзідэнтам, ці адчуў ты павышаную ўвагу да сябе з боку настаўнікаў?**

– Пакуль не. Можа мала часу прайшло яшчэ. Настаўнікі толькі пакуль віншуюць. Да дошкі выклікаюць як і раней. Хаця дома бацькі сказалі, што вучыцца горш я цяпер не маю права, бо павінен быць прыкладам для іншых.

**– На перадвыбарчым этапе брудных тэхналогій не выкарыстоўвалі?**

– Не, усе былі добразычлівыя адзін да аднаго. Кампанія прайшла чыста, ды і назіральнікі парушэнняў не зафіксавалі. Ды і астатнім кандыдатам работа знайшлася – яны падзялілі міністэрскія "партфелі".

**– Што сказалі дома?**

– Бацькі мяне падтрымлівалі на працягу ўсёй кампаніі. Свае выступленні рэпетыраваў дома – трэніраваўся на бацьках і бабулі.

**– За кошт чаго ты перамог?**

– Раскажу адзін выпадак. У школе дыскатэкі праходзяць толькі для вучняў 9-11 класаў. А на сустрэчы з васьмікласнікамі я сказаў, што ў выпадку майго выбрання на дыскатэку будуць пускаць вучняў восьмых класаў. Зала сказала "Yes". Думаю, з такіх фактараў і склалася перамога.

**– Як цябе знайсці ў школе ў выпадку патрэбы?**

– Пасля выбрання я папрасіў у дырэктара выдзеліць мне кабінет. Але свабоднага ў школе няма, пакуль будзем збірацца ў кабінеце завуча.

На бліжэйшы час запланаванае пасяджэнне Кабінета Міністраў. У яго ўвайшлі **Алёна Казойць** – міністр па ахове здароўя, **Вадзім Кацнельсон** – міністр фінансаў, **Вольга Літвіновіч** – міністр культуры, **Алёна Мікліс** – міністр па адміністрацыйна-гаспадарчай частцы, **Дыяна Міцкевіч** – міністр харчавання, **Анастасія Хіневіч** – міністр замежных спраў. Лічым, што неабходна прыняць законы. У першую чаргу, "Аб вандалізме", дзе будзе прадугледжаная адказнасць за паломку школьнай маёмасці. Створым калегію школьных адвакатаў, якія будуць вырашаць спрэчныя пытанні.

**– За кампаніяй па выбранні прэзідэнта Беларусі сачыў?**

– Так, праграмы ўсіх кандыдатаў прачытаў.

**– За каго ты галасаваў бы, калі б табе ўжо было 18?**

– За Лукашэнку.

**– Чаму менавіта за яго?**

– Не ведаю... (Пасля хвілiннай паўзы). Калі б я сёлета галасаваў, то больш сур'ёзна ставіўся б да свайго выбару.

**– Твае браты адчуваюць папулярнасць?**

– У школе вучыцца сярэдні брат. Яны займаюцца ў далёкім крыле школы. Але ён прыходзіў да настаўніцкай, дзе віселі стэнды з партрэтамі кандыдатаў, і з важным відам яго вывучаў.

**– Якая з краін, дзе ты пабываў, цябе больш уразіла?**

– Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Быў там два гады таму. А з гарадоў – Берлін і Парыж. Хаця Лондан таксама прыгожы горад.

**– Куды плануеш паступаць?**

– У БДУ на юрыдычны факультэт. А можа, і ў "нархоз", не вырашыў яшчэ. Але да гэтага будуць выпускныя экзамены і вясеннее пасяджэнне Кабінета Міністраў, дзе я буду выступаць перад усёй школай па выніках работы на пасадзе прэзідэнта.

**– А ў будучым не плануеш вылучацца на пост прэзідэнта краіны?**

– Дома бацька напалову сур'ёзна гаворыць, што, магчыма, прэзідэнтам Беларусі пазней стану. Не ведаю, чым чорт не жартуе? Паглядзім.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Уладзімір Кутко. Нарадзіўся 3 мая 1985 года. Вучыцца ў 11 "Б" класе СШ №2. 20 кастрычнікаў перамог на выбарах прэзідэнта школы.**
**Хобі – футбол, камп'ютэр, англійская мова. Бацькі – прадпрымальнікі, ёсць два малодшыя браты.**
**Пабываў у Польшчы, на Мальдзіўскіх астравах, Англіі, Францыі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, Афрыцы.**

**Выбары першага прэзідэнта Астравецкай СШ №2**

| | «За», галасоў | Пасада пасля выбараў |
|---|---|---|
| Алёна Казойць | 7 | міністр па ахове здароўя |
| Вадзім Кацнельсон | 13 | міністр фінансаў |
| Уладзімір Кутко | 215 | прэзідэнт |
| Вольга Літвіновіч | 23 | міністр культуры |
| Алёна Мікліс | 4 | міністр па адміністрацыйна-гаспадарчай частцы |
| Дыяна Міцкевіч | 42 | міністр харчавання |
| Анастасія Хіневіч | 15 | міністр замежных спраў |

■ **З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ**

## Будзем жыць

У рэдакцыю ідуць лісты ад чытачоў са словамі падтрымкі пасля крадзяжу нашай тэхнікі. Наш інтэрнэт-чытач **Павел** напісаў: "Дзякуй, што вы ёсць. Прыемна, што ў нашым краі ёсць такія – верныя і працалюбівыя. Буду чытаць кожны нумар. Я родам з Камарова, калі што, гатовы дапамагчы."

Напісаў некалькі радкоў наш аўтар **Алег Бяганскі**: "Вельмі абураюся ў сувязі з гэтым паскудным рабункам і жадаю рэдакцыі трымацца той "экалагічнай нішы", якой яна трымалася дагэтуль. Так, за бандытамі і злодзеямі нахабства, за вамі – праўда і любоў чытачоў."

**Рэдакцыя "РГ".**

■ **КУЛЬТУРА**

## Паспяховыя польскія гастролі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 23 па 28 кастрычніка прадстаўнікі дзіцячай музычнай школы далі тры канцэрты ў польскіх гарадах Пётркуў-Трыбунальскі, Бельхатаў, Вольбуж. Ездзілі 4 калектывы і асобныя выканаўцы. Усяго 47 чалавек.**

Як сказала дырэктар школы **Бэці Аўдзеенка**, канцэрты прайшлі паспяхова. На выступленнях беларусаў пабывалі мэры ўсіх гарадоў, дзе прайшлі канцэрты. Мэра Пётркуў-Трыбунальскага **Аджэя Пола** так уразіла выступленне цымбалісткі **Наталлі Малькевіч**, што на наступны дзень ён запрасіў яе да сябе на прыём, дзе ўручыў некалькі падарункаў: сувеніры і 100 злотых (каля 25 долараў ЗША). Анджэй Пол сказаў, што зноў запросіць беларусаў вясной. У сваю чаргу, прыезд гасцей з Пётркуў-Трыбунальскага ў Маладзечна плануецца ў маі 2002 года.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ**

## 100 мільёнаў доўгу па СШ №14

**МАЛАДЗЕЧНА. Будаўніцтва школы №14 амаль не фінансуецца.**

Як расказаў намеснік старшыні гарвыканкома па будаўніцтве **Мікалай Воранаў**, з планавага фінансавання ад аблвыканкома ў 500 мільёнаў рублёў выдзелілі 227 мільёнаў, а з 2 мільярдаў рублёў, якія былі выдзелены па даручэнні прэзідэнта, – нічога. Будынак стаіць без даху.

– Які дах! Мы яшчэ з зямлі не вылезлі, – дадаў М. Воранаў.

А абласны бюджэт запазычыўся 100 мільёнаў рублёў перад генпадрадчыкам ПМК-112.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Устаўляюць вокны

МАЛАДЗЕЧНА. У кастрычніку ў будынку Дома культуры прайшлі першыя тры акны. З пускам ацяплення пакуль праблемы. Майстар **Андрэй Вайшнаровіч** гаворыць, што ў іх няма абсталявання для падачы гарачай вады. Намеснік старшыні гарвыканкома па будаўніцтве **Мікалай Воранаў** сказаў, што заказчык "УКБ-Сервіс" за выкананыя работы вінаваты 300 млн. руб. Цяпер грошай зноў няма. Цэнтр занятасці выдаткаваў каля 5 мільёнаў, каб уцяпліць фасад у 70 квадратных метраў. Гэта павінны зрабіць за лістапад.

Цяпер на будоўлі занята 19 работнікаў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Пасвяцілі ў медыкі

МЯДЗЕЛ. Прайшло пасвячэнне ў прафесію маладых медыкаў. Тут жа былі і прафесійныя конкурсы. Пераможцай стала **Жанна Ракецкая**. Яна атрымала і прыз глядацкіх сімпатый.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Вучыцца ніколі не позна

МАЛАДЗЕЧНА. 30 кастрычніка група намеснікаў старшынь гар- і райвыканкомаў колькасцю 40 чалавек наведалі будынкі ў 4 і 6 мікрараёнах, завод металаканструкцый і сумесныя прадпрыемствы гэтага завода (ММЦ і Ростбелпрам), АТ "Забудова". Яны атрымалі досвед па вырабе будаўнічых матэрыялаў. Кіраўнікі праходзяць перакваліфікацыю ў Інстытуце вышэйшых кіраўнічых кадраў пры прэзідэнце Беларусі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Кінатэатр «Радзіма»

**Лістапад**

5–11 **"Прышэльцы ў Амерыцы"**, Францыя, прэм'ера, камедыя 17-00, 19-00, 21-00
**"Гэтая штука каханне"**, ЗША, маладзёжная камедыя 15-00

**Для дзяцей**

2 – **"Аленяня Рудольф"** (паўнаметр. мульт.) 13-00
3 – **"Мэл"** 13-00
4 – **"Кацяня"** 13-00
5 – **"Як бавяць канікулы Болек і Лёлек"** 13-00
6 – **"Дарога дадому"** 13-00
7 – **"Дзеці джунгляў"** (паўнаметр. мульт.) 13-00

Прадаецца абанемент на 5 фільмаў. Кошт абанемента 750 рублёў.

# Грант Сусветнага банка – маладзечанскім жанчынам

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 кастрычніка ў даведачным аддзеле гарадской бібліятэкі адбылася прэзентацыя рэсурсна-інфармацыйна-аналітычнага цэнтра грамадскай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў".**

Гэты цэнтр створаны ў 1997 годзе пры фінансавай падтрымцы Фонда Чарльза Сцюарта Мота і праграмы малых грантаў Сусветнага банка. Ён працягвае работу па стварэнні базы дадзеных "Беларусь сацыяльная", у якой будзе прадстаўленая інфармацыя пра дзейнасць грамадскіх, дзяржаўных, прафсаюзных, рэлігійных і камерцыйных арганізацый, якія аказваюць розныя паслугі ў сферы сацыяльнай абароны, аховы здароўя, працаўладкавання і адукацыі для 25 сацыяльна неабароненых катэгорый насельніцтва: біздомных, беспрацоўных, сем'ях хворых і інвалідаў, ахвяраў насілля, дзяцей і моладзі без неабходнага бацькоўскага догляду, наркаманаў і алкаголікаў...

Прысутныя на прэзентацыі азнаёміліся з інфармацыяй аб супрацоўніцтве прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі **Ірыны Алейнік** пра гуманітарныя праекты гэтай арганізацыі. Пра тое, на якіх умовах здзяйсняецца супрацоўніцтва з дзяржавай па пытаннях сацыяльнай падтрымкі. Найбольш давер і магчымасць пракантраляваць выдзяленне фінансавых сродкаў яны ўскладаюць на грамадскія арганізацыі. Таму і грант на стварэнне рэсурсна-інфармацыйна-аналітычнага цэнтра ў Маладзечне быў выдзелены аддзяленню Арганізацыі працоўных жанчын, кіраўнікам якой з'яўляецца **Нэлі Шлойда**. Прэтэндэнтамі на атрыманне гранта былі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый 14 гарадоў Мінскай вобласці. Наш горад стаў першым на шляху да праавой адукаванасці.

Але ў сферы сацыяльнай, інфармацыйнай, як ні ў якой іншай, ёсць неабходнасць цеснага ўзаемадзеяння, супрацоўніцтва з дзяржаўнымі арганізацыямі і ўстановамі. Пра ўсё гэта і пра досвед работы падобнага цэнтра ў сталіцы расказала дырэктар Беларускай асацыяцыі сацыяльных работнікаў **Марына Нарановіч**. Гэтая грамадская арганізацыя не абмяжоўваецца толькі інфармацыйнай дзейнасцю, праводзячы канферэнцыі, семінары. Пры ёй створаная "Бібліятэка сацыяльнага работніка", працуе кансультацыйная служба. Працуе Цэнтр дапамогі бяздомным, дзе адчынены Пункт рэгістрацыі асоб без пастаяннага месца жыхарства. З верасня гэтага года пачаў працаваць Крызісны цэнтр для дзяцей і жанчын.

Прававая культура, падрыхтоўка да самастойнага жыцця чалавека ў грамадстве, уменне рэалізаваць уласныя праекты – усё гэта з дапамогай інфармацыйна-аналітычнага цэнтра. Як і тое, што вы зможаце хутчэй вырашыць праблемы работы, жылля, сацыяльнай абароны, аховы здароўя, адукацыі, сваіх адносінаў з дзяржаўнымі інстытутамі.

Дзе будзе размяшчацца рэсурсны інфармацыйна-аналітычны цэнтр, вырашаць, у першую чаргу, уладам. Горад павінен быць зацікаўлены ў павышэнні прававой культуры маладзечанцаў, рашэнні сацыяльных праблем.

**Ларыса СЫСУН, загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі ЦГБ імя М. Багдановіча.**

## Вынікі ў эканоміцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканком падвёў вынікі эканамічнага спаборніцтва сярод прадпрыемстваў горада за 9 месяцаў 2001 года.**

Сярод прамысловых прадпрыемстваў I групы (колькасць работнікаў вышэй за 400 чалавек) на першым месцы завод паршковай металургіі. Далей – "Мінскі мэблевы цэнтр" і "Маладзечнамэбля".

Сярод прадпрыемстваў II групы (100–400 чалавек) лідэр – швейная фабрыка "Дзіната", III групы (да 100 чалавек) – "Белпрамкультура".

Сярод прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання прызавую тройку складаюць "Салон прыгажосці", "Рытуал", "Сняжынка".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Гандаль і харчаванне працуюць са стратамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Са стратамі працуюць ААТ "Маладзечнагандаль" і ААТ "Маладзечнаграмхарч".**

На 1 кастрычніка страты першых складаюць 56,6 мільёнаў, другіх – 74,6 мільёнаў рублёў. Сярэдняя заработная плата за верасень – каля 86 і 80 тысяч рублёў адпаведна.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** зазначыў, што ў "Маладзечнагандлі" заўважаюцца тэндэнцыі, што абнадзейваюць. Стараецца і дырэктар "Маладзечнаграмхарча".

М. Чурсін параіў разабрацца ў сітуацыі з кожным прадпрыемствам, якое ўваходзіць у сістэму гэтых акцыянерных таварыстваў. Тады і будуць прымацца рашэнні па рабоце кожнага прадпрыемства. Магчыма, некаторыя з іх прададуць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Газета – таксама бізнес

У мінулую нядзелю ў Мінску адбыўся сход апякунскага савета нядаўна ўтворанага Фонду развіцця рэгіянальнай прэсы, членам якога з'яўляецца галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандр Манцэвіч**. Выдаўцы і кіраўнікі каля трыццаці мясцовых недзяржаўных выданняў абмеркавалі праблемы развіцця газет як бізнесу, каардынацыю сваіх дзеянняў у дачыненнях з уладамі, метады работы.

На сустрэчы выступілі госці: прадстаўнік Рады Еўропы **Марыо Отэймер**, Страсбург, выканаўчы дырэктар Сусветнай газетнай асацыяцыі **Аралін МакМэйн** (Парыж), прадстаўнік газеты "Дзелавая раніца" з Шатландыі **Хілары МакРоры**.

Напярэдадні выдаўцы і кіраўнікі рэгіянальных СМІ прынялі ўдзел у семінары-практыкуме "Маркетынг, прамоцыя і Public Relations". Семінар быў арганізаваны Інстытутам на карысць дэмакратыі ва Ўсходняй Еўропе, Сусветнай газетнай асацыяцыяй і Саветам Еўропы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чарговыя адмены аўтобусных маршрутаў

СМАРГОНЬ. З 20 кастрычніка рашэннем райвыканкома адмененыя рэйсы пасажырскага аўтатранспарту: чатыры гарадскія маршруты і пяць прыгарадных. Скарочана пяць працягласцяў маршрутаў. Вось як пракаменціраваў гэтую сітуацыю галоўны інжынер аўтапарка-17 Смаргоні **Міхаіл Вяржынскі**:

– Райвыканком зрабіў гэта з мэтай пакрыцця выдаткаў гарадскога і прыгараднага аўтатраснпарту. Але 29 кастрычніка мы пагасілі запазычанасць у 9 мільёнаў рублёў. Калі кошт білетаў узнімецца, тады паспрабуем аднавіць маршруты, а пакуль што 3,5% скарочанага транспарту ніяк не перашкаджаюць пасажырам, таму што рэйсы былі стратныя.

**А вось як спраўляюцца з выплатай датацый у іншых гарадах:**

МАЛАДЗЕЧНА. – У нас ёсць запазычанасць (як сказалі ў бухгалтэрыі аўтапарка, яна складае 76 мільёнаў рублёў), але графік па разліку не сарваны і маршруты не адмененыя, – расказаў намеснік дырэктара па эксплуатацыі Маладзечанскага аўтапарка-4 **Віктар Руткоўскі**. А дырэктар аўтапарка **Пётр Мамчыц** падкрэсліў:



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Маладзечна. У гарадскім аўтобусе.**

– Можна адмяніць маршруты, але тады людзі будуць скардзіцца, а мы ўсё адно будзем працаваць у доўг. Сёлета грошы на разлік возьмем з гарадскога бюджэту.

У **ВІЛЕЙЦЫ** на гэты конт існуе 2 меркаванні. Галоўны інжынер аўтапарка-5 **Мікалай Жарнікаў** адзначыў, што ва ўсіх ёсць праблемы, але іх вырашаюць без адмен маршрутаў. У кіраўніка аддзела эксплуатацыі **Сяргея Церлюка** іншае меркаванне:

– У нас з апазычанасць у 10–11 мільёнаў рублёў. Афіцыйна ніякія маршруты не адмененыя, але пры затрымцы выплат датацый з бюджэту мы адмяняем у дзень па 6 прыгарадных і 2 гарадскія маршруты з 12-00 да 14-00, як гэта было на мінулым тыдні.

Вось і атрымліваецца, што бесперабойных рэйсаў трэба чакаць з павышэннем цаны або пры новых датацыях ад выканкомаў.

На гэтым тыдні на 30% падаражэў праезд ў прыгарадных і міжгародніх аўтобусах. Цяпер кошт праезду складае ад 11,6 да 24,8 рублёў за кіламетр (прыгарад) і ад 16,9 да 28,8 рублёў за кіламетр (міжгорад).

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Лістападаўская вернасць

Набліжаецца чарговы Чырвоны дзень каляндара, калі рэшткі камуністычна настроенага насельніцтва выйдуць на дэманстрацыі. Аднак вядома, што кастрычніцкае свята – зусім не бясплатнае мерапрыемства. Каб даказаць сваю вернасць справе Леніна, патрыёту давядзецца раскашэліцца. Узяць хаця б чырвоны сцяг – абавязковы атрыбут усялякай падобнай акцыі. Да яго трэба дадаць чырвоны гваздзік (у пятліцу), паштоўку са святам, надзіманы шарык і флажок унуку, значок з выявай Леніна ўнучцы, газету "Правда", бляшанку кансерваў у тамаце і пачак цыгарэт "Прима" – усяго дзень 7 лістапада ў рублёвым выражэнні абыдзецца ў 10 тысяч мінімум.

Мы ж, як заўсёды, захоўваючы вернасць грашоваму падліку, рэальна ацэньваем у фінансавым плане тое, што адбылося ў ноч на 25 кастрычніка па старым стылі, калі 47-гадовы расійскі правінцыял пад псеўданімам Ленін стаў самым багатым чалавекам у свеце. Пра тое, што самы чалавечны чалавек адным росчыркам пяра адпраўляў у лагеры і прыгаворваў да смерці тысячы сваіх суграмадзян, напісана шмат. Аднак вядома таксама і тое, што барацьбіт за светлае будучае траціў мільёны з дзяржаўнай казны на рэалізацыю сваіх ідэй, асуджаючы ўсю краіну на паўжабрацкае існаванне. Асабістая ж маёмасць першага кіраўніка краіны Саветаў была настолькі вялізная, што яе нават немагчыма падлічыць. Хаця многае вядома і дакументальна зафіксавана: і зацверджаныя ў снежні 1917 года аклады вышэйшым чыноўнікам у 500 рублёў золатам, і гараж з 6 машынамі, і 2 дачы, і вялізныя расходы на медыцыну, у асноўным, германскіх неўрапатолагаў. Былі выдаткі і на рэалізацыю любімых ідэй, якія не ідуць ні ў якое параўнанне з сумамі выдаткаў на сябе і сям'ю. Толькі на барацьбу з Цэнтральнай Радай у 1918 годзе Ленін выдаў 1 мільён залатых рублёў. Аналіз выдаткаў ніяк не вяжацца з даходамі правадыра, нават калі ўлічваць ганарары Ракфелера ці германскага генштаба за антываенную прапаганду ў Расіі. Усе грошы – з дзяржаўнай казны, паўнаўладным гаспадаром якой быў Ленін. Як і належыць дыктатару, ён разглядаў дзяржбюджэт, як сваю уласную кішэню, карыстаючыся ўсім багаццем падуладнай краіны. І паблажліва дазваляў паплечнікам шчыпаць ад дзяржаўнага пірага. І не так ужо патрэбныя былі вытанчаныя стравы або лішняе паліто сціпламу Ільічу, гэтыя дробязі правадыра не цікавілі. Яму трэба было невымерна больш: укараніць у жыццё свае грандыёзныя задумы. Любой цаной.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Без каментарыяў

♦ Грамадзяне Беларусі з 1 кастрычніка для ўезду ў калісьці сяброўскую, амаль нашую 16-ю рэспубліку Балгарыю павінны мець на руках страхавы поліс. Без медыцынскай страхоўкі ўезд закрыты.

♦ У бліжэйшы час чакаецца павышэнне цэнаў на малочныя прадукты, некаторыя віды дзіцячага харчавання, паслугі хімчыстак і пральняў. Пастановай урада гэтыя тавары і паслугі былі выключаныя з пераліку прадуктаў, цэны на якія рэгулююцца дзяржавай. У цэлым, за верасень цэны выраслі на 2 працэнты, з пачатку года – на 27%. За тое, што тры гады таму каштавала 67 долараў, цяпер давядзецца заплаціць 100 долараў.

♦ Будуць змяненні ў структурах не толькі ўрада, але і кантролю – далучаецца да камітэта дзяржкантроля камітэт фінансавых расследаванняў. Праверак менш не стане.

♦ На кірмашах з'явіліся бракаваныя кажухі. Іх часта прадаюць з адпоратымі гузікамі, якія быццам патрэбна прышываць самім пад свой памер. Аднак нават прышытыя гузікі не могуць схаваць крывыя полы такіх кажухоў. На скуры няякасных кажухоў могуць быць няроўнасці і нават нябачныя адразу пралысіны. Таксама трэба быць уважлівым, каб не купіць паношаную рэч па цане новай, таму што паношаны кажух пасля якаснай чысткі ад новай зможа адрозніць толькі прафесіянал. На зімовых распрадажах трэба быць асабліва ўважлівым.

♦ З сярэдзіны верасня дзейнічаюць новыя тарыфы за прадастаўленне паслуг легкавымі таксі: пасадка і кіламетр прабегу каштуюць 310 рублёў, у начны час – у паўтара раза вышэй. Аднак наўрад ці гэтых лічбаў будуць прытрымлівацца прыватнікі – за дастаўку ў той жа бар "Ціп-топ" давядзецца выкласці больш за 5 тысяч.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 25 кастрычніка | 1 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1499,00 руб. | 1510,00 руб. |
| Нямецкая марка | 683,73 руб. | 698,86 руб. |
| Літ | 374,74 руб. | 377,58 руб. |
| Расійскі рубель | 50,66 руб. | 50,88 руб. |
| Злоты | 364,76 руб. | 368,76 руб. |
| ЕЎРА | 1337,26 руб. | 1366,85 руб. |
| **"Вулічныя" курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1500 – 1530 руб. | 1510 – 1530 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 24.10 | 31.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7800 | 8250 |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | 3180 |
| Селядзец, 1 кг | 1850 | 1850 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 450 | 450 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1060 | 1060 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 790 | 790 |
| Маянэз, 200 г | 270 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | 1600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 550 |
| Соус там. "Мінскі", 0,5 л | 470 | 470 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 280 | 280 |
| Капуста, 1 кг | 145 | 130 |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | 1400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1250 | 1280 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Тварог, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 450 | 450 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 1400 | 1400 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 150 |

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

## Як адрамантаваць тэлевізар

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар раёна купіў летась тэлевізар. Ён паламаўся адзін раз. Тэлевізар адрамантавалі. Потым другі і трэці раз. Вясковец звярнуўся па дапамогу ў маладзечанскую арганізацыю абароны правоў спажыўцоў.**

Старшыня арганізацыі **Уладзімір Клешч** тлумачыць, што спажывец з-за таго, што не ведаў сваіх правоў, цярпеў выдаткі, якіх можна было пазбегнуць.

Па-першае, мужчына дастаўляў тэлевізар за свой кошт. Тры паездкі туды і назад абышліся яму ў 80 тысяч рублёў. А ў артыкуле 10 закона "Аб абароне правоў спажыўцоў" гаворыцца: "... дастаўка буйнагабарытных тавараў, якія важаць больш за 10 кілаграмаў, для рамонту, уцэнкі, замены робіцца за кошт прадпрыемства, якое ажыццяўляе рамонт, уцэнку, замену".

Калі б спажывец браў у таксістаў чэкі, то ён мог бы патрабаваць у прадпрыемства грошы за дастаўку. Прадпрыемства па патрабаванні спажыўца абавязанае выдаць замену на час рамонту – гэта гаворыць той жа артыкул.

А калі тры разы запар рамантуецца той жа вузел, то прадпрыемства выдае адпаведную даведку і завод-вытворца выдае новы тэлевізар.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Дэфіцытны бюджэт

**МАЛАДЗЕЧНА. На 1 кастрычніка гарадскі бюджэт выконваецца з запазычанасцю ў 2,3 мільярда рублёў. На пачатак года было 1,36 мільярда.**

Як сказала загадчык фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч**, галоўная прычына – запазычанасці па цеплаэнергарэсурсах і па добраўпарадкаванні горада.

План па даходах выконваецца на 105,7%. Даходы звыш плана пайшлі на стабілізацыйны фонд. За першае паўгоддзе ён склаў 811 мільёнаў. Грошы з гэтага фонду ідуць на пагашэнне выдаткаў на так званыя "абароненыя артыкулы". Па выніках работы за 9 месяцаў у стабілізацыйным фондзе заставалася 279 мільёнаў. Цяпер папоўнілі фонд яшчэ 413 мільёнамі.

Лідэры сярод прадпрыемстваў, якія запазычыліся ў бюджэт, – "Электрамодуль" (89,7 мільёнаў), "Камунальнік" (82 мільёны), завод жалезабетонных вырабаў (61 мільён), фабрыка музычных інструментаў (42 мільёны).

Негатыўная сітуацыя склалася таму, што 7 прамысловых прадпрыемстваў дапусцілі спад вытворчасці па выніках работы за год, а на 23 прадпрыемствах сярэдняя заработная плата ніжэй за сярэднюю па рэспубліцы і горадзе.

Прагназуемая запазычанасць бюджэту на 1 студзеня 2002 года – 2 мільярды. Цяпер галоўная задача – прафінансаваць бягучыя выдаткі за цеплаэнерганосьбіты, – зазначыла Паліна Вашкевіч.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Зона: учора, сёння...

Пабываць у раёнах, што пацярпелі ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, а калі дакладней, – у чарнобыльскай зоне, хацелася даўно. І гэта была не проста цікаўнасць, і нават не чыста прафесійны інтарэс. Проста ў свой час на працягу некалькіх год працаваў у тых месцах памочнікам капітана цеплахода. І вось выпала нагода з'ездзіць туды, дзе прайшло юнацтва: мяне ўключылі ў склад групы журналістаў, якая якраз і накіроўвалася на некалькі дзён у Брагінскі, Хойніцкі і Нараўлянскі раёны.

Якія там раней былі мясціны! Як спявалі ў вёсках дзяўчаты, як пахлі ў агародчыках кветкі, колькі цеплаходаў хадзіла дзень і ноч па Прыпяці! Хрызантэмы ля кінутых дамоў ў зоне адсялення цвітуць і цяпер. Але ўдыхаць іх водар чамусьці не хочацца. Так сама, як і шмат год таму, чырванее на галінках каліна. І смак яе нічым не адрозніваецца ад ягад у лясах пад Баранавічамі ці Гроднам. І ўсё ж тут многае змянілася.

Дзіўна, але адчуванне небяспекі ў зоне адсялення няма. Можа, таму, што там жывуць людзі, і гутаркі з імі паказваюць, што не праблема радыяцыі і яе наступстваў хвалююць іх у першую чаргу. Хутчэй, их турбуюць пытанні быту: як працуе магазін, ці прыходзіць аўталаўка, ці выплацяць дапамогу на дзяцей.

Хутчэй за ўсё, нашай нацыі яшчэ далёка да вылячэння. І таму людзі едуць у мясціны, якія пацярпелі ад Чарнобыля, і цяпер. Першае наша знаёмства – з галоўным бухгалтарам райпалівазбыта **Людмілай Багдзевіч**. Яна прыехала сюды ў 1996 годзе з Нясвіжа. Не вярнулася, а менавіта прыехала, бо ў Нясвіжы былі праблемы з жыллём. Тут такіх праблем няма.

– Жывем мы ў асобным доме. Праўда, цяжка было прывыкнуць, што вакол мноства пустых, кінутых будынкаў з выбітымі вокнамі, праваленымі дахамі. Але ж неяк асвоіліся і не скардзімся.

Пытаемся, ці няма праблем са здароўем і даведваемся, што ў саміх з мужам быццам бы ўсё ў парадку, а вось дзеці хварэюць. Маленькія радасці: у школе і ў дзіцячым садку бясплатнае харчаванне, пяць тысяч рублёў у месяц даюць на сям'ю на малако, працуюць у горадзе хлебазавод, масла-сыр і крухмальны заводы, так што гэтыя прадукты ў продажы ёсць заўсёды.

Такіх сустрэч у гэтым рэгіёне ў нас было шмат. У вёсцы Шкураты, што побач з Брагінам, пагаварылі з пенсіянеркай **Аляксандрай Трафімаўнай**. Ёй 75 год, пенсія – 39 тысяч, ды і такую пачала атрымліваць толькі пару месяцаў таму, да гэтага было 28.

Пытаемся, як жывецца.

– Як Бог дасць, – адказвае бабуля. – Працаваць цяжка, а трэба. Нашых тут няшмат, але панаязджала да нас сюды. Бачу, што чужыя людзі, а адкуль едуць, ніхто не ведае.

На пытанне, што ёсць у магазінах, адказвае, што не ходзіць туды і не ведае – няма з чым. І горка працягвае:

– А зайздросна, хочацца ўсяго, стары – што малы.

Скаргі тут у кожнага свае, у залежнасці ад сацыяльнага статусу. Старшыня Брагінскага райвыканкома **Рычард Сцефановіч** шкадаваў у гутарцы са мной, што трэба зносіць бальніцу, якая будуецца, бо няма грошай на тое, каб набыць абсталяванне. Ды і наогул, раёну патрэбная больш складаная дыягнастычная апаратура, а сродкаў для гэтага не выдзяляюць. На візітцы кіраўніка адміністрацыі раёна побач з гербам дзяржавы – трохкутнічак са знакам радыеактыўнага забруджвання і два гваздзікі, адзін з якіх зламаны. Гэта – як знак бяды.

Менавіта ў той дзень у Брагін прыйшло дзве фуры гуманітарнай дапамогі з Германіі. Немцы прывезлі інвалідныя каляскі, бялізну. У магазіне яны даволі доўга разбіраліся з нашымі грашыма, купляючы гарэлку. Напэўна, для прафілактыкі. А на цэнтральнай плошчы, ля помніка Леніну прадстаўніца раённага аддзела адукацыі скардзілася, што трэба два разы на год аздараўліваць дзяцей за кошт грамадскіх арганізацый, а падобных фондаў у райцэнтры няма, усё робіцца праз Мінск. Церпяць дзеці, за лёс якіх трэба змагацца.

У калгасе "Парыжская камуна" размаўляем з галоўным інжынерам. На тры вёскі працуюць 87 чалавек, у асноўным, пенсіянеры. У калгасе пяць аўтамабіляў, тры з якіх "на хаду" і дзевяць "рабочых" трактароў.

Па ўсім відаць, што ў калісьці вялізнай вёсцы Сабалі людзі раней жылі добра. Дахі пад жалезам ці шыферам, дамы ці цагляныя, ці з добрага дрэва. Але пустыя. Вёска ў развалінах. У хатах раскіданыя фатаграфіі і паштоўкі, рэчы, пад вокнамі ўнутры памяшкання – ластаўчыны гнёзды. Птушкі вёску не пакінулі. Хаця, жывуць тут і людзі. Але іх няшмат. На другім канцы вёскі стаяць трактары і бульдозеры: там капаюць катлаваны і хаваюць дамы. Перад уездам на гэтую вуліцу знак: "Праезд і праход забаронены, штраф да 10 МЗП". Праязджаем. Двое мужчын загружаюць воз бярвеннем, якраз з тых дамоў, што закопваюць у зямлю. Жартуюць, што печка ад радыяцыі будзе свяціцца.

– Бог яе ведае, дзе тут ёсць радыяцыя, дзе няма, – адказваюць на нашае пытанне. – Пятнаццаць год пражылі, Сабалі былі выселеныя цалкам, а цяпер вось хто-ніхто вярнуўся.

Расказваюць, што дзеці з гарадоў прыязджаюць за бульбай, салам, капустай. Гавораць пра гэта спакойна, як пра нешта даўно звыклае.

Наступнае месца нашага прабывання – Хойнікі. Яны таксама сустракаюць пустымі аканіцамі. Зразумела, у райцэнтрах людзей жыве больш, але кінутых дамоў і там нямала. У горадзе ёсць царква, будуецца касцёл. У вёсцы Стрэлічава царкву зрабілі з клуба, і людзі моляцца ў гэтым будынку.

У Хойніках – мемарыял у памяць аб адселеных вёсках. Пагоннае, Радзін, Краснаселле, Уласы... Дваццаць назваў.



Фота Уладзіміра БАЗАНА.

77-гадовая Антаніна Герасімаўна – жыхарка вёскі Канатоп Нараўлянскага раёна



Фота Уладзіміра БАЗАНА.

Хойніцкі раён, вёска высокае. Дзядзька Жэня ў сваёй хаце.



Фота Уладзіміра БАЗАНА.

Вёска Канатоп, 102-гадовы Анісім Сторадж, як гаворыць яго дачка, можа яшчэ і 100 грамаў выпіць.

Гавораць, на самой справе іх больш. Начуем у Мазыры. Горад дагледжаны, разметка, нанесеная напярэдадні нядаўніх "дажынак" яшчэ не сцерлася. Тут – не пацярпелы раён і не зона адсялення. І тое, што ў гасцініцы няма гарачай вады, не так і страшна.

Раніцой зноў цудоўнае надвор'е. Мы – у Нараўлянскім раёне.

Каб трапіць у адну з вёсак, якая называецца Канатоп, трэба праехаць пост. Міліцыя ідзе нам насустрач і прапускае, папярэдне праверыўшы нашыя журналісцкія дакументы і пакінуўшы ў сябе тэхпашпарты на машыны – каб выязджалі гэтай жа дарогай. У вёсцы таксама шмат кінутых дамоў. Але на тэлефонных слупах – каля дзесяці буслiных гнёздаў. Неразбураных. Бабуля **Антаніна Герасімаўна**, якой 77 год, расказвае, што раней працавала на прыстані, муж быў капітан на цеплаходзе. Але цеплаходы тут цяпер амаль не ходзяць. Няма і прыстані. З сумам успамінаю, як праходзілі тут год дваццаць таму, падчас спыняліся, куплялі рыбу. Тады тут кіпела жыццё, пра якое нагадваюць цяпер хіба што зваленыя ў кучу ля берага бакены.

Наведваем у Канатопе дзеда **Анісіма** з цікавым прозвішчам **Сторадж**. Яму 102 гады. Ён быў кавалём. Яшчэ ў 80 год грукаў у калгасе па кавадле. Потым кузню разабралі. Наогул, дзед філосаф.

– Чаго сабе не жадаеш, таго самаму страшнаму ворагу не жадай. А калі думаеш: адплачу, адплачу – сабе горш зробіш, – лічыць ён. – Час мой кароткі, усё ў мяне здаровае, а хадзіць няможна. Занадта правільна ісці трэба.

Ходзіць Анісім з дапамогай мыліц. Па гаспадарцы яму дапамагае 77-гадовая дачка. Сам дзед вернік, у доме іконы і царкоўныя кнігі, некаторыя з якіх з выгляду старыя. У царкву хацеў бы схадзіць, але далёка. Наогул, Анісім шмат што пабачыў на сваім вяку і нават у турме савецкай за тое, што шмат працаваў і нядрэнна жыла сям'я, пасядзеў 4 гады. Вызвалілі датэрмінова, за добрую работу. Вярнуўся на хутар – прыехалі зноў забралі, адвезлі ў Нароўлю. Праўда, паглядзелі там дакументы, знялі наручнікі і адпусцілі.

На руцэ ў дзеда – алюмініевы ружанец. Яшчэ спявае песні, можа, як гаворыць дачка, і 100 грамаў выпіць.

– Можа, кніжкі якія ёсць, хоць і на славянскай мове? – пытаецца Анісім.

Кніжак не было, а газету з публікацыямі дзеду абяцалі выслаць. І яшчэ адна вёска ў зоне адсялення – Грыдні. Але людзі вярнуліся і сюды.

Трымаюць кароў і нават коней. Гэта сюды, у былы калгас «Кастрычнік», ужо два разы прыязджаў **Лукашэнка**. Тут ім задаволеныя, хлеб-соль падносілі.

– Самалётам апусціўся, – гаворыць былая даярка **Марыя Кавальчук**. У Карповічы ездзіў, праўда, гэтую вёску «закапалі». Пенсія ў Марыі 60 тысяч, шкадуе яна толькі пра тое, што не трапіла на фатаграфію, дзе Лукашэнка зняўся з сялянамі. У многіх ёсць такія фатаграфіі.

У пустых вёсках цяпер шмат самасёлаў. Не са сваіх, з прыезджых. Беларусы, украінцы, рускія, нават казахі. Калі б не прыезджыя, амаль нікога ў вёсках гэтых і не было б. Так тут лічаць многія.

Людзі тут звыкліся з лёсам. І тое, што для чалавека, які прыехаў "з вялікай зямлі", жах, для іх – звычайнае жыццё.

Няма дроў – адарваў ад суседняга дома некалькі налічнікаў – і калі ласка, грэйся. Няма ежы – пайшоў і налавіў рыбы. Хто яе там правярае! У лясах дастаткова ягад і грыбоў. Праўда, у гэтых месцах чамусьці ўвесь час пяршыць у горле. Але гэта, хутчэй, таму, што дарогі пыльныя...

Камандзіроўка падыходзіла да заканчэння. Мы развіталіся, абменьваліся візіткамі, успаміналі найбольш цікавыя эпізоды паездкі. І толькі тут успомнілі, што кепкі, прыхопленыя з сабой у зону, мы ў гэтыя дні так і не надзявалі. Неяк не да таго было, ды і няёмка перад мясцовымі. У іх жа адчування небяспекі няма. А чым мы лепшыя? Ці горшыя?

**Аляксей БЕЛЫ,**
**газета "Intex-press",**
**Баранавічы,**
**для "Рэгіянальнай газеты".**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Пра вытокі рэк у рэгіёне

**Карэспандэнт "РГ" пабываў ля вытокаў Заходняй Бярэзіны і Ушы. Яны пачынаюцца менавіта ў нашым рэгіёне. Прапануем нататкі Алега Бяганскага.**

У рэгіёне знаходзяцца вытокі шматлікіх рэчак і ручаёў. У тым ліку, Ушы, даўжыня якой складае 75 кіламетраў, і Заходняй Бярэзіны – 226 кіламетраў. Пачатак гэтых рэчак прымеркаваны да масіва марэнных узгоркаў, так званай Беларускай грады.

Рака Уша пачынаецца ў Валожынскім раёне паміж вёскамі Туркаўшчына і Дубраўшчына. Яна выцякае з забалочанай, парослай хмызняком лагчыны. Крыніцу выявіць не ўдалося. Грунтавыя воды проста прасочваюцца са схілаў, узгоркаў вакол лагчыны і ўтвараюць спачатку багністы адрэзак даўжынёй каля 50 метраў, потым з'яўляецца маленькі ручаёк.

Першы "мост" на Ушы – труба пад шашой Ракаў–Радашкавічы метраў за 400 ад вытоку. Але ў рэчцы ўжо жывуць лічынкі насякомых і іншая вадзяная драбяза. Выток Заходняй Бярэзіны знаходзіцца на вышыні каля 300 метраў у 4 кіламетрах ад вытоку Ушы каля вёскі Бортнікі на мяжы Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў. Рака пачынаецца надзвычай маляўніча: 2 крыніцы даюць 2 ручаі, якія зліваюцца каля вёскі Дубрава. Ручаі цякуць па схілах узгоркаў і, нібы ў гарах, утвараюць маленькія вадаспады, перакаты. Звон вады чуваць здалёк.

Ля самых крыніц можна назіраць такую з'яву, як крып, калі грунт на схілах узгоркаў спаўзае ўніз пад уздзеяннем гравітацыі. І калі б не лес, крып ператварыўся б у апоўзень. Першая сажалка на Заходняй Бярэзіне ўтвораная каля Дубраўскага спіртзавода. Там жа знаходзіцца і вялікая жывёлагадоўчая ферма.

Вытокі рэк у нашых продкаў заўсёды былі месцам святым. На жаль, гэтая традыцыя перарвалася. Засмечаны лес, ферма, звалкі ўжо з самага пачатку суправаджаюць рэкі. Немцам у свой час спатрэбіліся мільёны марак, каб Рэйн зноў стаў жывой і маляўнічай ракой.

**Алег БЯГАНСКІ.**

## Колькі вады мы спажываем?

Па дадзеных Маладзечанскай інспекцыі па ахове навакольнага асяроддзя, спажыванне вады на сённяшні час складае 14,5 мільёна кубаметраў у год па горадзе і 6,8 мільёна кубаметраў у год – па Маладзечанскім раёне. Скіданне "адпрацаваных" вод па горадзе і раёне складае адпаведна 10,4 і 5,1 мільёна кубаметраў у гадзіну. Водаачышчальныя збудаванні разлічаныя прыкладна на 11,3 мільёна кубаметраў у год. Так што пэўныя рэзервы па Маладзечне яшчэ ёсць.

Большасць прамысловых прадпрыемстваў у горадзе і раёне адносяцца да 4 катэгорыі бяспекі, лічыцца, што экалагічна бяспечныя. Большую небяспеку ўяўляюць прадпрыемствы 2 і 3 катэгорый – электрасеткі, Маліноўшчынскі спіртзавод і іншыя. На іх рэгулярна праводзяцца інспектарскія праверкі.

**Алег БЯГАНСКІ.**

 



■ ПАРТРЭТ

# Дзяніс Смірноў: «Гэта здарылася так хутка і нечакана...»

**Апошнія туры чэмпіянату РБ па футболе прынеслі цікавыя звесткі. Вызначаем першага маладзечанца, які за сезон выйшаў з чыстага дубля ў асноўны склад ФК "Маладзечна-2000".**

Падставы для гэтага былі ўжо даўно, недзе ў сярэдзіне першага круга, але ў Дзяніса Смірнова тады спачатку не хапіла ўпэўненасці ў мінскім матчы з "Тарпеда-МАЗ", а потым па ўзросце яго чакала армія. І на адзін месяц забрала. Перапынак сказаўся на фізічных кандыцыях футбаліста, і выступленне ў вышэйшай лізе зноў адклалася.

Тым не менш, яно ўсё ж такі адбылося. Знаёмцеся. Дзяніс Смірноў нарадзіўся 10 верасня 1981 года, скончыў школу №12 і маладзечанскі палітэхнікум. Першым трэнерам у ДЮСШ быў **Анатоль Ішчанка**, але асноўную базу заклаў **Аляксандр Гармаза.** Два гады адгуляў у "Забудове" і са стварэннем чэмпіянату дублёраў прыйшоў у "Маладзечна-2000".

**– Дзяніс, ты першы маладзечанец, хто з дубля прыйшоў у асноўны склад. Якія ўражанні?**

– Нават і не ведаю. Гэта здарылася так хутка і нечакана, што я яшчэ не паспеў пра гэта падумаць. У сваю чаргу, хачу сказаць, што я проста гуляў апошнія два матчы ў асноўным складзе. А гэта яшчэ, лічу, не аснова.

**– Звязваеш з тым, што задача ўжо выкананая і...**

– Мне таксама так здаецца, што **Людас Іонавіч** дае пагуляць, каб у моладзі з'явілася ўпэўненасць на наступны сезон.

**– А перад сезонам ставіў нейкія мэты або думаў, як пройдзе сезон адносна цябе?**

– Планаваў выйсці на ўзровень, каб быць недзе пад асновай, магчыма, выходзіць на замены. Каманда падбіралася даволі моцная, каб адразу адваяваць месца ў складзе. Асноўная мая задача была трэніравацца, не сёння дык заўтра праца заўсёды прынясе вынікі. І ўсё ж, нават яшчэ цяпер не ўспрымаю, што гуляў у аснове ў вышэйшай лізе.

**– Чэмпіянаты дублёраў і вышэйшай лігі – зямля і неба?**

– У "вышцы" шмат хутчэй усё, ды і падбор футбалістаў не той. Дублёры ёсць дублёры, там, прыкладам, мае равеснікі гуляюць, і мы на роўных. У вышэйшай лізе сустракаешся з такім фактарам, як досвед амаль усіх футбалістаў.

**– Як ахарактарызуеш выступленне клуба ў чэмпіянаце?**

– Я так і думаў, што зоймем недзе сёняшняе месца, а з вышэйшай лігі не вылецім – гэта дакладна. З-за адсутнасці выніку большую частку сезона каманда не мела стабільнага складу, і Людасу Румбуцісу давялося паспрабаваць ўсіх усюды. Цяпер гуляем добра, па праве застаемся ў вышэйшай лізе, і ў хуткім часе будзем рыхтавацца да новага сезона. Час ляціць.

**– У цябе асабіста нейкія планы ёсць на будучыню?**

– Не скажу, што ёсць планы. Проста буду працаваць, а там будзе відаць.

**– Поспехаў!**

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Табло

■ ІНВАСПОРТ



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Прызёры чэмпіянату Беларусі па лёгкай атлетыцы сярод інвалідаў з парушэннем апорна-рухальнага апарату (злева направа): Аляксандр Грынько, Сяргей Гудовіч і Вольга Грынько. Згадзіўся пазіраваць і сабачка, які жыве ў сям'і Грынько.**

**МІНСК. 26–28 кастрычніка прайшоў чэмпіянат Беларусі па лёгкай атлетыцы сярод інвалідаў з парушэннем апорна-рухальнага апарату.**

Бралі ўдзел у чэмпіянаце краіны члены спартыўнага клуба "Прамень". Усе яны занялі прызавыя месцы. **Вольга Грынько** перамагла ў кіданні дыска і штурханні ядра, **Сяргей Гудовіч** стаў другім ў гонцы на 100 метраў і другім жа ў кіданні дыска. **Аляксандр Грынько** заняў другія месцы на 100-метроўцы і кіданні кап'я і быў трэці ў кіданні дыска.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВАЛЕЙБОЛ

МАЛАДЗЕЧНА. Тут адбыўся занальны этап першынства Мінскай вобласці па валейболе. Каманда Мядзельскага раёна перамагла ўсіх сапернікаў і выйшла ў паўфінал першынства.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**27.10 РВАР – Забудова 3:0 (0:0)**

Галы: (69), (89), (90).

Склад: Мядзведзеў, Івашкевіч, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька (Ваўчок, 67), М. Мятліцкі, Урублеўскі (Ан. Канапелька, 73), Міранoвіч, Садчанка, Татун, Чарнель, Грыхуцік.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СПАРТАКІЯДА

**МАЛАДЗЕЧНА. З 29 па 30 кастрычніка праходзіла гарадская спартакіяда сярод допрызыўнай моладзі па ваенна-спартыўным комплексе "Абаронца Айчыны".**

Удзельнікі з усіх школ спаборнічалі ў шасці відах спорту: бег 200 метраў, спартыўная гімнастыка, плаванне 50 метраў, стральба з пнеўматычнай зброі, кіданне гранаты і бег 2 кіламетры. Хлопцы бралі ўдзел толькі пасля атрымання дазволу ўрача. Пераможцамі сталі у камандным заліку: **СШ №11** – 1 месца (1482 ачкі) – грашовы прыз у 15000 рублёў, **СШ №2** – 2 месца (1466), **СШ №10** – 3 месца (1465)

У асабістым першынстве: першае месца – **Віктар Вараб'ёў** (беларуская гімназія; 369 ачкоў) – атрымаў прыз у 5000 рублёў. **Раман Ахметаў** (СШ №3; 350 ачкоў) – 2 месца. **Максім Шульжэнка** (СШ №11; 340 ачкоў) – 3 месца.

Усе пераможцы атрымалі граматы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Сяргей Тартоўскі (злева) паспрыяў галявой перадачай перамозе ФК "Маладзечна-2000" над БАТЭ.**

# Гістарычная перамога

**26.10 Маладзечна-2000 – БАТЭ (Барысаў) 2:1 (1:0)**

Суддзя: Чыкун (Стоўбцы), 1000 гледачоў

Галы: Кабельскі (9), Сідарэнка (59); (87).

Сідарэнка (Багайчук, 75) Макрыцкі
Тартоўскі Мігас
Смірноў (Карпіленка, 70)
Кабельскі
Азаронак Бычкоўскі
Сарасек
Рубацкі

Лепшыя па версіі "РГ": Кабельскі (4 раз у сезоне), Рубацкі (6), Сідарэнка (2), Міхалёў (8), Тартоўскі (3), Сарасек (1).

Па якасці гульні гэта адназначна лепшая гульня ў сезоне. Цуда-ударам пад перакладзіну ўжо ў дэбюце сустрэчы адкрыў лік **Кабельскі** пасля навесу **Тартоўскага**. Пытанні ў кіраўніцтва БАТЭ выклікаў другі гол гаспадароў. Яны зрабілі адпаведны запіс у пратаколе.

Але начальнік ФК "Маладзечна" **Юрый Лукін** упэўнены, што афсайду ў **Сідарэнкі** не было. Пасля матча абодва бакі неаднаразова праглядалі плёнку. Інспектар матча **Віктар Шукан** не змяніў адзнаку арбітрам: галоўнаму – 8,5 бала, асістэнтам – па 9 балаў.

Юрый Лукін лічыць, што паражэнне БАТЭ выклікане недаацэнкай барысаўчанамі саперніка.

Застаецца дадаць, што перамога ФК "Маладзечна" у некаторым сэнсе гістарычная – гэта першая перамога ў афіцыйных матчах супраць БАТЭ (да гэтага былі 5 паражэнняў).

Маладзечанцы амаль пазбавілі шанцаў футбалістаў БАТЭ на залатыя медалі і ўскладнілі барацьбу за сярэбраныя.

| | |
|---|---|
| 1. Белшына | 55 |
| 2. БАТЭ | 50 |
| 3. Дынама (Мн) | 47 |
| 4. Нёман-Белкард | 47 |
| 5. Шахцёр | 42 |
| 6. Гомель | 40 |
| 7. Славія | 38 |
| 8. Тарпеда-МАЗ | 33 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 31 |
| 10. Дынама (Бр) | 28 |
| **11. Маладзечна-2000** | **26** |
| 12. Лакаматыў-96 | 18 |
| 13. Ведрыч-97 | 8 |
| 14. Нафтан | 8 |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Конкурс

### Банк зрывае Вадзім Сярпейка з Маладзечна

На пытанні другога этапа рэдакцыя атрымала 21 ліставанне. Найбольшую колькасць правільных адказаў – 5 – даслаў маладзечанец **Вадзім Сярпейка.** Ён становіцца пераможцам як другога этапа, так і першага, бо быў у ліку васьмі прэтэндэнтаў на прыз першага этапа. Такім чынам, Вадзім зрывае банк адразу ў 4 літры піва, і лідзіруе з 11 баламі пасля двух этапаў.

Чатыры правільныя адказы на другім этапе маюць смаргонец **Мікалай Кіндра**, маладзечанцы **Уладзімір Лазучонак, Анатоль Шпілеўскі, Ігар Міцкевіч, Дзмітрый Талайка**, віляйчанін **Аляксандр Вярбіцкі** і **Іна Крук** (вітаем дзяўчыну!) з Цюрлёў. У суме першыя чацвёра набралі 10 (6+4) балаў, астатнія трое – 9 (5+4) балаў. Таксама 9 (6+3) балаў у маладзечанцаў **Андрэя Верына** і **Аляксандра Пушкарэвіча**.

**Правільныя адказы на пытанні другога этапа:**

1. А – Марка ван Бастэн. 2. А – перамога "Лакаматыва". 3. А – "Белшына" (Бабруйск). 4. Г – перамога БАТЭ. 5. А – нявыйгрыш "Смаргоні". 6. А – перамога РВАРа.

### Пытанні трэцяга этапа

**Міжнародны футбол**

1. 10 лістапада матч плэй-оф да чэмпіянату свету Украіна – Германія завяршыцца
А – перамогай Украіны. Б – унічыю 1:1. В – унічыю, але не 1:1. Г – перамогай Германіі.

2. 14 лістапада матч у адказ плэй-оф да чэмпіянату свету Германія – Украіна завяршыцца
А – перамогай Германіі з розніцай у два ці больш мячоў. Б – перамогай Германіі з розніцай у адзін мяч. В – унічыю. Г – перамогай Украіны.

**Беларускі футбол**

3. У традыцыйным штогадовым апытанні газеты "Прессбол" на званне лепшага футбаліста краіны сёлета найбольшую колькасць балаў сярод наступных футбалістаў набярэ
А – Лухвіч. Б – Штанюк. В – Шунейка. Г – Яхімовіч.

4. У тым жа апытанні найменшую колькасць балаў сярод наступных футбалістаў набярэ
А – Бялькевіч. Б – Васілюк. В – Гурэнка. Г – Хацкевіч.

**Рэгіянальны футбол**

5. У якім годзе ў прэсболаўскім апытанні перамог Уладзімір Макоўскі?
А – 1995. Б – 1996. В – 1997. Г – 1998.

6. У першым таварыскім матчы маладзёжнай зборнай Беларусі (1981 г.н. і маладзей) супраць аднаго з нямецкіх клубаў на зборах у Германіі Віталь Бычкоўскі
А – правядзе ўвесь матч. Б – выйдзе ў аснове, але будзе заменены. В – выйдзе на замену. Г – удзел не прыме.

9 лістапада (пятніца) – апошні тэрмін атрымання адказаў.

**Адказы можна прыносіць у рэдакцыю, дасылаць на адрас рэдакцыі, дасылаць на E-mail konkurs@tut.by**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# ФК «Смаргонь» у першай лізе

**27.10 Пінск-900 – Смаргонь 2:1 (0:0)**

Галы: (60), (71); Чарнуха (88 – пен.)

Склад: Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Якубіцкі, Шаблінскі (Фамін, 79), Шпілеўскі (Кошаль, 61), Відук, Селіванаў, Дзігілевіч, Шагойка (Паркулевіч, 69), Шпакоўскі.

Галоўны трэнер "Смаргоні" **Андрэй Майсейчанка** гаворыць, што гульня з Пінскам была горшая ў сезоне.

За ўвесь першы тайм футбалісты не стварылі ніводнага моманту. Спахапіліся пасля таго, як прапусцілі два галы. У канцы матча гаспадары збілі ў сваёй штрафной **Фаміна**, і **Чарнуха** скарацiў лік. Пасля смаргонцы арганізавалі навал, але выратаваць матч не здолелі.

Пра свой датэрміновы выхад у першую лігу смаргонцы даведаліся пасля гульні ад інспектара матча.

Андрэй Майсейчанка дадаў, што ў міжсезонні плануецца ўзмацненне складу, і ФК "Смаргонь" выходзіла ў першую лігу не для таго, каб з яе вылецець.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ДУБЛЬ

**25.10 Маладзечна-2000 – БАТЭ (Барысаў) 1:3 (1:1)**

Галы: Вільтоўскі (21); (27), (65), (86).

Склад: Сцепановіч (Асадоўскі, 46), Дрозд, Пятроўскі, Альковік, Ваўчок (Харэцкі, 60), Лявончык, Антановіч, Багайчук (кап.) (Касцюк, 85), Дараховіч, Матусевіч, Вільтоўскі (Асіповіч, 72).

| | |
|---|---|
| 1. Гомель | 52 |
| 2. БАТЭ (-1) | 48 |
| 3. Дынама (Мн) | 47 |
| 4. Тарпеда-МАЗ (-1) | 47 |
| 5. Славія | 42 |
| 6. Белшына | 37 |
| 7. Нёман-Белкард | 31 |
| 8. Днепр-Трансмаш | 31 |
| 9. Шахцёр | 30 |
| 10. Лакаматыў-96 | 27 |
| **11. Маладзечна-2000** | **24** |
| 12. Дынама (Бр) | 23 |
| 13. Нафтан | 17 |
| 14. Ведрыч-97 | 7 |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**02.11 (дубль) Нёман-Белкард (Гродна) – Маладзечна-2000**
+0=1-0 0-0. У першым крузе 0:0 дома

**03.11 Нёман-Белкард (Гродна) – Маладзечна-2000**
+4=5-8 18-22. У першым крузе 0:3 дома

**04.11 14-00 Смаргонь – РВАР (Мінск)**
+2=1-4 3-7. У першым крузе 1:0 (Дукса) на выездзе

**04.11 14-00 Забудова – Дынама-2 (Мінск)**
+0=0-3 1-8. У першым крузе 0:4 на выездзе

**06.11 14-00 (дубль) Маладзечна-2000 – Днепр-Трансмаш (Магілёў)**
+0=0-1 0-1. У першым крузе 0:1 на выездзе

**07.11 14-00 Маладзечна-2000 – Днепр-Трансмаш (Магілёў)**
+4=5-8 21-33. У першым крузе 2:4 (Турчыновіч, Баранаў – аўтагол) на выездзе

**08.11 Дынама-2 (Мінск) – Смаргонь**
+2=0-1 5-2. У першым крузе 2:0 (Селіванаў, Відук) дома

# ВІНШАВАНКІ

Любую дачушку
**Ірачку Канапацкую**
віншую з 10-годдзем!
Жадаю здароўя, поспехаў у вучобе, усяго самага найлепшага.

Пусть самые заветные мечты
Исполнятся и сбудутся надежды.
Пусть светом радости и теплоты
Согреет пожеланий моих нежность.
Пусть каждый день
приносит радость, счастье,
Здоровье, пониманье и участье!
*Мама.*

**Сашу Цупу**. Віншуем з паўналеццем! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця, поспехаў у вучобе, здзяйснення жаданняў. *Твая сям'я.*

Віншую з днём нараджэння **Марыка Драздоўскага**! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, быць паслухмяным. *Дзед.*

Віншуем дарагую мамачку **З. В. Масійчук** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Максім, Лена.*

Віншуем з 40-годдзем **Аляксандра Анатольевіча Кулака**! Жадаем шчасця, здароўя, усяго найлепшага. *Драгуны.*

Віншуем з 40-годдзем **Раісу Мікалаеўну Мацкевіч**! Жадаем здароўя, шчасця, міру, даўгалецця. *Аднакласніца Валянціна Драгун і яе сям'я.*

Віншуем з днём нараджэння **Зінаіду Кульчыцкую**! Жадаем здароўя, шчасця і поспехаў у рабоце. *Сын, нявестка і ўнук Уладзіслаў.*

## ■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Наведвальнік рэстарана папрасіў шклянку віна.

– Чырвонага ці белага? – спытаўся афіцыянт.

– Няма розніцы. Я дальтонік.



# ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная, цікавая жанчына, 37/170/82, пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п ІІІ-ДР 690930.

Жанчына, 40/168/56, русыя валасы, матэрыяльна забяспечаная. Адкажу на пісьмо з фота. Маладзечна-6, п/п V-АЛ 535585.

Жанчына 41/164 пазнаёміцца з прыемным, надзейным мужчынам 40-50 год, несудзімым. Маладзечна-6, п/п ХІ-ВН №654605.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 44

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## ■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Пачнем з адказаў на мінулае пытанне. Нагадаю яго: раней у футболе мяч дазвалялася браць рукамі, потым правілы змянілі. Гульцы адной з каманд не маглі прывыкнуць да новых правілаў і бралі мяч у рукі. Трэнер прыдумаў спосаб, як прывучыць гульцоў да новых правілаў. Прапанавалася адгадаць гэты спосаб.

Пяць чалавекі сказалі, што трэнер звязаў гульцам рукі за спіной. Два – што трэнер вымазаў мяч. А аднойчы прагучала версія, што ён прыдумаў новую гульню – рэгбі.

Правільна адказалі чацвёра – трэнер перад гульнёй даў кожнаму ў рукі па манеце і гульцы гулялі, заціснуўшы манеты ў кулаках. Вось нашы лаўрэаты: **Аляксандр Пушкарэвіч**, **Іосіф Каросцік**, **Аляксандр Арлянковіч** і **Людміла Кендыш**. Білеты ў кіно чакаюць іх у рэдакцыі.

Наступнае заданне. У старажытнай Грэцыі кожнага, хто хацеў прайсці на адзін (відаць, сакрэтны) востраў, варта пыталася: "Навошта ты ідзеш?" Калі чалавек гаварыў праўду, то яго пускалі, калі не, то адсякалі галаву. Але знайшоўся госць, які адказаў так, што стража не ведала, што з ім рабіць.

**ПЫТАННЕ ПЕРШАЕ:** Што адказаў чалавек?

**ПЫТАННЕ ДРУГОЕ:** Падобны выпадак быў у адным вядомым рамане са школьнай праграмы. Што гэта за раман?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне і прыходзьце па запрашальны білет для 2 асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## ■ ДНІ

2 лістапада – **Дзень памяці.**

3 лістапада – **Дзяды.**

4 лістапада – **185 год з дня нараджэння А. Вярыгі-Дарэўскага** (1816–1884), беларускага пісьменніка-дэмакрата.

6 лістапада – **110 год з дня нараджэння І. Воўк-Левановіча** (1891–1943), беларускага мовазнаўцы.

7 лістапада – **Дзень кастрычніцкай рэвалюцыі.**

8 лістапада – **70 год з дня нараджэння** (1931) Г. Мурамцава, беларускага скульптара і педагога.

## ■ ІМЯНІНЫ

**2 лістапада**
**Праваслаўныя**: Арцёма, Герасіма.
**Каталіцкія**: Дзяды (Задушны дзень), Багдана.

**3 лістапада**
**Праваслаўныя**: Дзяды (Бацькоўская памінальная субота), Іларыёна, Феафіла, Якава.
**Каталіцкія**: Сільвіі, Губерта, Марціна.

**4 лістапада**
**Праваслаўныя**: Іконы Казанскай Божай Маці, Ганны, Фядоцці, Аляксандра, Антона, Дзяніса, Івана, Іраклія, Канстанціна, Максіміляна.
**Каталіцкія**: Альгерда, Караля.

**5 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ігната, Якава.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Захарыя, Славаміра.

**6 лістапада**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Сысоя, Феафіла.
**Каталіцкія**: Леанарда, Фелікса.

**8 лістапада**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Феафіла.
**Каталіцкія**: Віктара, Готфрыда.

## ■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# «Зайцы» і таямнічы сіненькі аўтобусік

Падыходжу да прыпынку. Стаіць сіні "РАФік". Маршрутка? Углядаюся і разумею, што, па-першае, вокны таямніча занавешаныя шторкамі, па-другое, занадта сур'ёзны "вадзіла" сядзіць за баранкай. Нешта тут не тае. Чакаю аўтобуса.

Аўтобус прыходзіць (на жаль, не мой). Тут, як па трывозе, з "РАФіка" аператыўна дэсантуюцца тры жанчыны ў спартыўных касцюмах і гэтак жа аператыўна забягаюць у аўтобус. Адна да вадзіцеля – сачыць, каб той усе дзверы не адчыняў. Іншыя – у салон да пасажыраў. Тэрарысткі, – раблю выснову. Углядаюся ў акно аўтобуса: не, не тэрарысткі – кантралёры. Пасажыры прад'явілі білецікі, а нейкі хлопец-небарака, відаць, забыўся купіць білет. Пачаў старанна тлумачыць гэта кантралёрам. Тыя на просьбы не паддаліся (ведаем мы вас такіх, вушасценькія) і хацелі прымусіць "зайца" плаціць за праезд. Хлопец працягваў даказваць, што ён не купіў білецік з-за разгубленасці, але і кантроль не лыкам шыты. Пайшлі ў таямнічы сіненькі аўтобусік і з папаўненнем у выглядзе двух міліцыянераў ізноў зайшлі ў аўтобус. Ахоўнікі правапарадку дапамаглі хлопцу выйсці з аўтобуса, і гутарка працягвалася ўжо на вуліцы пры сведках.

– Ну няма мне чым плаціць штраф! На мялі я! – маліўся хлопец.

– Не мялі ты! – адгукнуўся кантроль.

Далейшая размова ішла ў тым жа накірунку і магла б працягвацца бясконца, каб не міліцыянеры.

– А давайце з'ездзім ва ўчастак, – прапанавалі яны сваё альтэрнатыўнае рашэнне праблемы.

Як хлопец не адпіраўся, але гасціннасць міліцыі ўзяла сваё. Заяц-небарака паехаў у госці.

Аўтобус я чакаў доўга, але гэта ўжо іншая гісторыя. Пакуль чакаў, зноў заўважыў таямнічы сіненькі аўтобусік, але ўжо на прыпынку насупраць. Памянялі месца дыслакацыі, – зрабіў я чарговую выснову.

Калі вы не хочаце праехацца на таямнічым сіненькім аўтобусіку, то купляйце білеты. Яны ж недарагія.

**Сяргей АЎСЯНІК.**

# Маладзечанскі Гарлем,

## або чаму ў вячэрнія і начныя часы нельга выклікаць таксі ў раён «парашкоў»

Не сказаць, каб раён завода парашковай металургіі быў самы "бандыцкі" у горадзе, і не чуваць было, каб каго з таксістаў тут пакрыўдзілі ці, як сказануў расійскі прэзідэнт, "замачылі". Аднак факт застаецца фактам: не хочуць ехаць у гэты раён таксісты, хоць прасі, хоць ты плач і галасі.

Менавіта са слязьмі на вачах дзве дзяўчыны пры мне прасілі дыспетчара прыслаць таксі "на парашкі". Тройчы тэлефанавалі па нумары 061. Прасілі, тлумачылі, што па справах затрымаліся ў гэтым раёне, а ім патрэбна ў цэнтр, дадому. Аўтобусаў у выхадныя дні не дачакаешся, тым больш, што было ўжо каля 12 гадзін ночы. Дарэмна. Адказ быў адзін.

Вадзіцелі на "парашкі" не хочуць ехаць. Баяцца.

Такая ж самая гісторыя паўтарылася праз хвілін 30–40. Маладая сям'я ехала з гасцей на вуліцу Міру. Зноў тройчы тэлефанавалі, тлумачылі. Адказ быў вядомы: не.

Дыспетчар службы 061, якая не назвала сваё прозвішча, сказала, што таксісты выконваюць любы заказ, незалежна ад таго, з якога раёна горада выклікаюць таксі. Але часцяком гараджане адмаўляюцца плаціць за паслугі. Большасць такіх выпадкаў было якраз на "парашках". Нумары тэлефонаў, з якіх выклікалі таксі, трапляюць у "чорны спіс". І заказы, зробленыя з іх, больш не выконваюцца.

**Святлана ПОСАХ.**

## ■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

- Нішто ніколі не будуецца ў тэрмін і ў межах каштарысу.
- Чалавек можа памыляцца, але часцяком ён перакладае свае памылкі на іншых.
- Утопія – гэта ідэальны, па меркаванні аўтара, лад грамадства, які ажыццявіўся, на шчасце для астатніх, толькі на паперы.
- Мастацтва – гэта ўменне рабіць тое, што не ўмеюць іншыя.
- Здольным зайздросцяць, таленевітым шкодзяць, а геніяльным – помсцяць.

## ■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Грэнкі з грыбамі

**Лустачкі белага хлеба, 100 г сушаных грыбоў, 150 г маргарыну, 100 г вострага сыру, 2 яйкі, звараныя крута, 1 цыбуліна, перац, соль, зеляніна.**

Грыбы прамыць халоднай вадой, заліць кіпячоным малаком на ноч. Дробна нарэзаную цыбулю абсмажыць на маргарыне, дадаць нарэзаныя грыбы, патушыць да гатоўнасці грыбоў, падліваючы малако, пасаліць, паперчыць.

Лустачкі батона падсмажыць на маргарыне з аднаго боку, на падсмажаны бок пакласці грыбы, пасыпаць сечанымі яйкамі і надзертым сырам. Пакласці на змазаную тлушчам бляху, паставіць яе ў гарачую духоўку на 15 хвілін. Пасыпаць зелянінай і падаць гарачымі.

# Мус журавінавы

**250 г журавін, 3 лыжкі манных круп, 100 г цукру.**

Падрыхтаваныя журавіны расцісніць драўлянай лыжкай, працерці праз друшляк, адцісніць сок. Жамерыны заліць гарачай вадой (0,5 л), пракіпяціць 5–7 хвілін, працадзіць. У працэджаны адвар усыпаць разведзеныя халоднай вадой крупы і варыць, памешваючы, на малым агні 15–20 хвілін. Зняць з агня і ўзбіць венчыкам, дадаючы сок і цукар з ванілінам, да ўтварэння пышнай масы. Перакласці ў сподачкі, упрыгожыць ягадамі з варэння. Падаць дэсерт халодны або цёплы.

## ■ НАШ РЭГІЁН



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Вёска Брусы, будынак школы. Зіма 2001 года.

# Брусы

**Ля шашы Маладзечна-Мядзел, сярод прыгожых бароў, якія зрэдку перарываюцца кавалачкамі палёў, месціцца вёска Брусы.**

У 1848 годзе вёска належала да маёнтка Вузла Вілейскага павета Віленскага ваяводства. Уладальнікам яе быў мастак і арнітолаг граф **К. Тызенгауз**, удзельнік вайны 1812 года. Мела вёска 27 двароў, 249 жыхароў. У 1904 годзе яна разраслася да 469 жыхароў, ды 10 жыло на выселках, што належалі панам **Пшаздзецкім**. У 1875 годзе ў вёсцы адкрылася школа граматы, у якой у 1896/97 навучальным годзе вучыліся 23 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі.

І сусветная вайна пакінула адбітак і на Брусах. На гэтым напрамку ў 1914–1918 гадах праходзіла лінія фронту. Нездарма лясы вакол Брусоў зрытыя акопамі і траншэямі. Старыя жыхары казалі, што тут некалі знаходзіліся склады другой рускай арміі. Менавіта тут 18–28 сакавіка 1916 года праходзілі крывавыя баі з кайзераўцамі. Супраць рускай арміі немцы прымянілі атрутныя газы. 700 салдатаў пахавалі тады каля вёскі. А на пакінутыя склады ехалі за чымнебудзь патрэбным нават з Мядзела.

Пасля вайны мясцовасць адышла да Польшчы. З 1921 года вёска Мядзельскай гміны Дунілавіцкага павета Віленскага ваяводства.

"За Польшчай" солтыс уважліва сачыў за зборам падаткаў. А іх было шмат. Нават за тое, што чалавек меў запальнічку, маглі накласці штраф, бо на вытворчасць запалак была манаполія дзяржавы. І купляць запалкі трэба было ў яе. Тое ж самае было з тытунём, гарэлкай. Падатак плацілі і за карыстанне лесам, нават за кожнае дрэва з саду.

Таму і сустракалі Чырвоную Армію з півонямі, якія раслі пад акном кожнае хаты, 17 верасня 1939 года. Лічылі, што лепш стане. У 1940 годзе ў вёсцы 109 двароў і 328 жыхароў. Але гэта – апошнія вялікія лічбы ў жыцці Брусоў. Бо ў 1943 годзе яе ўшчэнт спалілі. А яе 22 жыхары, што не паспелі ўцячы, былі забітыя нямецкімі захопнікамі. Усяго за вайну забілі 73 жыхары.

Пасля вызвалення вёска адраджалася. Людзі будаваліся, гадавалі дзяцей, жыццё ішло. Мяняліся назвы калгаса: з 1949 года калгас "Сцяг перамогі", з 1954 – вёска ў складзе калгаса імя Леніна, з 1994 года – аграфірма "Зара", з 1997 года – сельгаспрадпрыемства імя М. Танка.

Цяпер у вёсцы 114 двароў з 257 жыхарамі. Працуе магазін, клуб, бібліятэка. Жыхары, у асноўным, працуюць на свінагадоўчым комплексе і жывёлагадоўчай ферме.

Калі не было аб'язной дарогі, на Мядзел ездзілі праз Брусы. Цяпер аб'язджаеш. Шкада, што за лесам не відаць невялікай, але цікавай беларускай вёскі Брусы.

**Падрыхтаваў Алесь РАЛАВЕЦ.**

## КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях:** 1. Салдат, узброены мушкетам. 4. Спецыяльнае месца для вырошчвання маладых раслін. 9. Участак вадаёма, прызначаны для лоўлі рыбы закідным невадам. 10. Мужчынскае імя. 11. Спакуснік жанчын, залётнік. 12. Невялікая арыя, якая чаргуецца з рэчытатывам. 14. Воінскае званне малодшага камандзіра ў арміях некаторых краін і ў рускай арміі з XVII да пачатку XIX стагоддзя. 16. Знак аплаты паштовых і некаторых іншых збораў, а таксама грашовая адзінка ў Германіі і Фінляндыі. 18. Дзікі асёл у Азіі. 19. Лісцевае дрэва роду таполяў з зеленавата-шэрай гладкай карой. 24. Лісток на чым-небудзь з указаннем назвы, колькасці, месца вырабу і пад. 26. Паўднёвая травяністая расліна з прадаўгаватым духмяным і сакавітым плодам і плод гэтай расліны. 28. Вялікі акіянскі пасажырскі параход, а таксама мнагамесны самалёт. 29. Памяшканне для мыцця бялізны. 30. Механізм для пад'ёму і перамяшчэння грузаў. 31. Працягласць дзейнасці ў якой-небудзь галіне. 32. Лёгкі чатырохколавы экіпаж. 33. Выкладчык гісторыі як вучэбнага прадмета.

**Па вертыкалях:** 1. Мяккая тоўстая ватовая падсцілка, або са спружынавым каркасам. 2. Жывёліна, падобная на вавёрку, з каштоўным мяккім доўгім футрам. 3. У сярэдневяковай пісьменнасці: надрадковы знак у выглядзе ламанай рыскі над словамі, напісанымі скарочана. 5. Месца, па якім спускаюцца ўніз. 6. Шампунь ад перхаці, назву якога мы часта чуем у рэкламе па тэлебачанні. 7. Вялікая музычная група выканаўцаў – хор з аркестрам. 8. Музычны твор або яго частка ў хуткім, ажыўленым тэмпе. 13. Аддаленая імгненная ўспышка на небе – водбліск маланак далёкай навальніцы. 15. Дашчаная ці жалезная створка для прыкрыцця знадворку акна. 16. У рэлігійна-містычных уяўленнях: сукупнасць дзеянняў і слоў, здольных рабіць уплыў на звышнатуральныя сілы. 17. Ізаляваная або аддзеленая ад іншых частка спецыяльнага памяшкання. 20. Паказная смеласць. 21. Від спорту – скарасны спуск на лыжах з гары па зададзеным складаным маршруце. 22. Член сената. 23. Падземны ход. 25. Удзельнік крыжовага паходу. 27. Бытавая назва буйнога васьміногa. 28. Азотнакіслае серабро ў выглядзе крышталічнага парашку, што выкарыстоўваецца ў медыцыне для прыпякання.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №43**



## Гараскоп 5 – 11 лістапада



**Авен** (21.03–20.04)

Не плануйце на 5–7 лістапада дзеянні, якія, як вы лічыце, могуць палепшыць вашу прафесійную базу і ўзмацніць ваш аўтарытэт. Практычна нічога не атрымаецца. Аднак у канцы перыяду нейкае важнае паведамленне надасць вам сіл і энергіі, значна павысіць настрой. Магчымая некаторая страта фінансаў.



**Цялец** (21.04–21.05)

5 лістапада многія сітуацыі абвострацца, таму галоўнае – захоўваць спакой і адэкватна рэагаваць на выклікі самога жыцця. Пасля 7 лістапада асабістыя стасункі гарманізуюцца самі сабой, так што вы атрымаеце немалую эмацыянальную палёгку ад усведамлення таго, што не наламалі дроваў.



**Блізняты** (22.05–21.06)

5 лістапада верагодны шэраг крызісных уціскаў, якія падвергнуць выпрабаванню ўсё тое, што вы лічыце каштоўным і значным. Магчымае скарачэнне прасторы для манеўраў, перашкоды ў эканамічнай творчасці. Калі вы занятыя ў сферы гульнявога бізнесу, лепш за ўсё наогул прыпыніць дзейнасць і часова зачыніць дзверы... напрыклад, для рамонту. Пераключыце ўвагу на клопаты пра сваё здароўе.



**Рак** (22.06–23.07)

5 лістапада адзначыцца шэрагам крызісаў. Паспрабуйце ў гэты дзень максімальна абмежаваць сябе ад дзелавых кантактаў, перагавораў і зносінаў з высокапастаўленымі асобамі. 11 лістапада адкрые перыяд яркага прасоўвання самых «пустых» праграм.



**Леў** (24.07–23.08)

5 лістапада можна сутыкнуцца з нечаканымі стратамі. Некаторыя з іх могуць быць цяжкія – скасаванне доўгатэрміновага дагавора, здрада, цяжкі сямейны крызіс на мяжы разводу. 11 лістапада цалкам прысвяціце сям'і.



**Дзева** (24.08–23.09)

5 лістапада – небяспечны дзень, таму акуратна адсочвайце любыя ўмяшанні ў вашае асабістае жыццё, «замахі» на вашую свабоду. Хаця многае з таго, што адбываецца, можа прынесці нечакана пазітыўныя вынікі – вы зможаце высветліць некаторыя пытанні. Не адпраўляйцеся ў дарогу да 10–11 лістапада.



**Шалі** (24.09–23.10)

Самае разумнае для вас у гэты перыяд – не спрабаваць дзяліць паўнамоцтвы. Калі хтосьці і прэтэндуе на ваша месца або на вашы «лаўры», дазвольце яму пацешыць сябе надзеямі. Каля 11 лістапада з'явяцца новыя магчымасці значнага папаўнення фінансаў.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Не раім прымаць фінансавыя і арганізацыйныя рашэнні 5 лістапада: іх наступтвы могуць аказацца катастрафічнымі. Усё зменіцца да лепшага ўжо 11 лістапада, калі вы адчуеце мір у душы і багацейшы патэнцыял энергіі. Тады ж вы рызыкуеце зрабіцца аб'ектам страсці.



**Стралец** (23.11–21.12)

5 лістапада беражыце здароўе, не ўступайце ў спрэчкі з навакольнымі, якім усё адно нічога даказаць не зможаце. А вось з 10 лістапада з'явіцца новы імпульс у рабоце, вынікам чаго можа стаць значны фінансавы прарыў. У эмацыянальнай сферы таксама магчымы пад'ём, прыём доўгачаканых гасцей.



**Казярог** (22.12–20.01)

Не спяшайцеся прад'яўляць прэтэнзіі навакольным, даруйце неасцярожным. Толькі 11 лістапада вы зразумееце ўсю мэтазгоднасць гэтай перасцярогі. 11-га ж пачнуць закладацца спрыяльныя тэндэнцыі ў развіцці калектыўных праграм, групавых рашэнняў.



**Вадалей** (21.01–19.02)

У пачатку перыяду магчымы разрыў якіх-небудзь няпэўных стасункаў, прынятце няправільных рашэнняў. Таму, наколькі магчыма, адкладзіце любыя мерапрыемствы, у тым ліку, і паездкі да 9 лістапада. Таму што прыкладна з гэтага часу вашыя прафесійныя перамогі могуць прынесці нядрэнныя грошы і прыязнасць начальства.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Многае з раней вывучанага будзе здавацца даўно састарэлым і памылковым. Жыццё можа рэзка павярнуцца ў процілеглым накірунку. 11 лістапада наступіць абсалютная гарманізацыя ва ўсім, і вы адчуеце, што пераломы хаця і балючыя, але прыносяць значную палёгку. Выпадковая сустрэча з ранейшым каханнем...

## 90 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У «НАШАЙ НІВЕ»

**Вільня.** У акружным судзе 15 кастрычніка разбіралася справа 53 сялян, каторых вінавацілі ў тым, што яны зруйнавалі ў 1905 годзе ў часе забастоўкі паперню памешчыка Грэговіча ў двары Раёўка. На суд прыехала 48 сялянаў, рэшта паўцекала. Суд прыгаварыў двух у арыштанцкія роты – кожнаму па аднаму з палавінай году, чацьвёра ў турму – па 8 месяцаў, а 42 апраўдаў. Засуджаных тут жэ павялі ў вастрог. Гэтак скончылася гэтая старая справа, аб каторай Раёўскія сяляне захавалі сумны ўспамін..."-Усмірэньне" далося тады шмат каму ў знакі.

**Г. Ашмяны, Віл. губ.** Застрэліўся тут 7 числа гэтага месяца пісар паліцэйскай управы Кукель. Гэта ўжо чацьвёртае самагубства ў гэтым гаду ў Ашмянах.

**Наша ніва, 1911 г., 20 кастрычніка 1911 г. №42**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8140 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№44(341)2.11.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 1.11.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»